**Васіль Гурскі**

# Лебяда і Капуста

— Я самая стройная, — выхвалялася Лебяда. — Расту, як у казцы. А ў цябе, таўстуха, ні росту, ні фігуры, ні прыгажосці.

— Мне добра быць таўстухай, — апраўдвалася Капуста. — Мая сястра летась адна цэлы клас у абед накарміла.

— Ты не накорміш, — засмяялася Лебяда. — Не дам табе ходу — маленькай зачахнеш.

— Не зачахну. Дзеці перасадзілі мяне сюды, яны выручаць.

— Дзеці?! Дык яны ж на канікулы сабраліся. Чуеш? Апошні званок звініць, — радавалася Лебяда. — З заўтрашняга дня я гаспадару на градцы!

Лебяда не драмала: і днём, і ноччу карэнні ўглыб, ушыркі пускала, усе сокі вакол Капусты высмоктвала, лісцем сваім суседку ад сонца засланяла.

Захвалявалася Капуста, адчувала, што без пары вяне: і вады не хапае, і дыхаць у цяні цяжэй стала.

Дзень прайшоў, другі. Усё вышэй падымалася Лебяда.

— Як жывеш, суседка? — насмешліва пытала. — Дзеці твае з рукзакамі ў паход пайшлі.

Цяжка ўздыхала Капуста — не хацела растрачваць апошнія сілы на пустую спрэчку, а за зямельку мацней трымалася, далей карэньчыкі выпускала.

Лебяда ўсё вышэй нос угору задзірала.

Ды аднойчы запоўніўся агарод дзіцячымі галасамі. Хадзілі вучні між градак з матыкамі, граблямі, палівачкамі. Хто глебу рыхліў, хто градкі праполваў, хто раслінкі палівау.

— Я самая высокая! — хвалілася Лебяда. — Я каралева прыгажосці. Я — Лебяда-а!

— Ты, Лебяда, наша бяда! — крыкнула Наташа. — Разраслася, пакуль мы ў паходзе былі! Ану, пустазелле, — прэч з градкі! — І дзяўчынка вырвала задаваку з коранем. А ты, Капуста, весялей пазірай, усміхайся сонцу. Хлопчыкі, вады нясіце!

Апусціла галаву Лебяда, сагнулася ў крук — дзе і форс дзеўся! А ля Капусты цэлы гурт дзяцей корпаецца — матычаць, падкормку сыплюць, палліваюць...

— Расці, Капустачка, таўсцей, колькі хочаш, — ласкава гаварыла Наташа. — На ўсю градку разрастайся. Мы цябе не пакінем у бядзе!

Наташа ў канцы лета зрэзала таўшчэзны качан, а падняць не змагла — зноў сяброў на дапамогу паклікала. Гуртам паднялі яго і на школьную выстаўку панеслі, на самае пачэснае месца паклалі.

Доўга яшчэ гаварылі ў школе пра Капусту і пра старанныя дзіцячыя рукі: і калі Наташынай групе першую ўзнагароду ўручалі, і калі экспанаты на гмінную выстаўку адбіралі...

А пра Лебяду забыліся ўсе. Пустазелле — пустое зелле.



# ЧЫТАЕМ і пішам

# Т Ж

Т Т Т Т Т Т т т т т
П П П П П П п п п п п п

ліс ліст рос рост карп
мост парк капалі копанка
У Томы і Пашы коні малін.

ж ж ж ж ж ж ж ж
х х х жа жу жо жы
жар шар жыта шыта
Тут жук. У жука вусы.
У жука лапкі.

З. Бандарына

# ГАЛКА

Жыла я летам з сынам Косцікам у Вязынцы. Там за рачулкай ёсць старыя ліпы, дзе любяць сяліцца розныя птушкі.

Аднойчы ў сонечны дзень сяджу ў хаце за сталом, пішу. Раптам занавеска, якая аддзяляла наш пакойчык ад спальні гаспадароў, адсунулася. Выглянуў Косця. Вочы бліскучыя, на загарэлым твары аж да вушэй вясёлая дабрадушная ўсмешка. Падбег да мяне, зазірнуў у вочы. Потым, ні слова не гаворачы, дастае з-пад лінялай блакітнай майкі і ставіць на стол перад самым маім носам калматае мокрае галчаня.

— Навошта ты прыцягнуў яго сюды? — спытала я досыць строга.

Косцік стаў прасіць, каб я не злавала на яго. Не, ён не разбураў гнязда, ведае, што гэтага б я не даравала. Ён знайшоў галчаня пад старой ліпай; яно само выкінулася з гнязда, пабілася і змокла ў роснай траве.

Галчаня, ківаючыся з боку на бок, прайшлося па майму беламу лісту і пакінула на ім незразумелыя знакі. Потым падало голас:

— К-к-а-в-в-э, ка-в-в-э!

— Мамачка, чуеш? — захваляваўся Косцік. — Галя пытаецца: дзе, дзе? Можа, яна есці хоча? Я пайду накапаю ёй чарвякоў на рэчцы. А ты глядзі, каб яна не скінулася, не пабілася яшчэ... Добра?

Сказаў і кулём вылецеў з хаты.

Разявіла галчаня чорную дзюбу, глядзіць мне ў вочы. Мо і праўда, галоднае?.. Пашукала я на паліцы, дастала кавалак хлеба. Выбрала мякіш, накачала дробных шарыкаў, спрабую закінуць у галчын рот. Не бярэ, выплёўвае. Тут жа разяўляе дзюбік і зацягвае жаласліва:

— К-ка-в-в-э-э, к-к-к-а-в-в-э-э!

От жа гора звалілася на маю бедную галаву! Сорамна будзе прызнацца сыну, што яго маці не ўмее ўжо і галчаня накарміць.

Усё перабрала з нашых прыпасаў: тварог, бульбяную кашу са скваркамі, суніцы. І так, і гэтак стараюся ўціснуць у рот птушаняці гэтую ежу. Не бярэ, ды і годзе.

Нарэшце прытуліла я галчаня да грудзей, сама бегаю па пакоі, мух яму лаўлю. Скажыце, што яшчэ за дзіва? Мух выплёўвае ды яшчэ дзюбкай трасе, правярае, ці не прыліпла там якое ліха. Горача мне стала, па твары ручаямі пот цячэ. А галчаня крычыць.

Вярнулася з поля мая гаспадыня, зухаватая, гаваркая бабка, пляснула рукамі:

— Ці то ў нас новая кватарантка, ці госця?

— Госця, — кажу. — Косця яе пад ліпай падбітую знайшоў. Прынёс на папраўку. А я... смех і грэх, як ні сілюся, накарміць яе не магу.

— Ото ж клопату!.. Вы адпачніце крыху, а я тым часам як бачыце вашае галчаня накармлю. Нідзе яно не дзенецца.

Села гаспадыня на падлогу, ногі выцягнула, паміж каленяў у фартусе заціснула галчаня і давай карміць. Сяджу і я побач на падлозе, вучуся. Карміла ж гэтак яна малых куранятак і качанятак, накорміць і галчаня. Разніме яму дзюбку, пакладзе на язычок бульбянай кашы, галчаня верць-круць галоўкай, круць-верць...

— А каб ты ўжо, дай бог, згарэла! — злуецца гаспадыня. — Еш,

кажу, чарцяня кіпцястае, бо паляціш у мяне праз акно свінням на патраву! — грозна крычала бабка, гатовая, здавалася выканаць сваю пагрозу.

У самую небяспечную хвіліну ў хату, як апараны, уляцеў Косця.

— Дзе Галя? Накармілі?

— Дзе ж ты яе накорміш!.. Шчасце знайшоў, каб яго немач, каб яго... Мы тут з маткай тваёй галовы стлумілі, без ног засталіся. А праз каго? Праз вось гэтую... Ну, чаго разявілася, вочы тарашчыш? Гляньце, гаспадара пазнала...



Галчаня смешна трапятала сваімі кароткімі крыльцамі і ўсім целам цягнулася да Косці.

І дзіва — у ягоных руках яно сапраўды як бачыш пад'ела. Не толькі чарвякі пайшлі ў ход, а і той самы хлеб, бульбяная каша, на закуску — сыр.

Пад'ела галка і заснула на Косцевай руцэ. Не павярнуўся ў мяне язык, загадаць яму, каб занёс галчаня назад. Няхай хоць трошкі паправіцца, акрыяе...

Сталі Галя і Косця неразлучнымі. Спаў ён з ёю разам. Зрабіў гняздо са сваёй шапкі, уночы пакладзе туды галчаня і паставіць ля сваёй падушкі. Разоў пяць на ноч карміў. Бадай праз кожную гадзіну чулася патрабавальнае:

— К-к-а-вэ!

Удзень, як убачыць, што Косця нешта жуе, падскочыць да яго, разявіць дзюбу і — кармі. Так ішло тыдні тры. Пачалі адрастаць у нашай галкі крыльцы. Сама яна ўжо навучылася лавіць мух у хаце.

Адкрасавалі ліпы. Налівалася жыта на палетках. Першыя гуркі ў калючых пупышках знайшлі мы на агародзе. Хіба ўтрымаеш пры доме хлопца ў летні дзень, калі недалёка ёсць возера і можна купацца?

Вось і сёння. Косцік кудысьці пабег, а мы сядзім у хаце. Галка паела ўсіх мух і дрэмле пад высачэзным фікусам, які стаіць у драўлянай кадушцы на падлозе і падпірае сваёй вяршыняй столь. Шчыльна закрыўшы павекамі вочы, час ад часу ківае чорнай бліскучай галоўкай. Прыгожая яна стала, гладкая.

Спіць галка. У пакоі ціха, мух няма. Я сабе пішу памаленьку. Задумалася, не чую, як крадзецца да фікуса Рыска. На тое яна і кошка. Апрача таго, да Галі Рыска мае свой уласны рахунак: была раней нашай пястухай і любіміцай, а цяпер толькі і чуе: „Брысь, не чапай Галю! Брысь!“

І вось падпільнавала кошка зручную хвіліну, калі няма галчынага гаспадара. Заходзіцца Рыскіна сэрца ад крыўды: ці ж не лашчылася яна да Косці, ці не мурлыкала яму пад самае вуха пяшчотныя песні? Усё дарэмна. Дыбам устае поўсць на Рыскінай спіне. Нячутна падымаецца мяккая кацiная лапка, з-пад аксамітнай ласкавай падушачкі высоўваюцца страшныя кіпцюры...

*(Працяг на стар. 7.)*



# ПАГЛЫБЛЯЙ  СВАЕ ВЕДЫ 

## 120 КРЫНІЦ У СТАЛІЦЫ

У Будапешце, сталіцы Венгрыі, ёсць 120 крыніц з цёплай прыроднай вадой. Тэмпература вады ў іх розная: ад 20 да 76 градусаў. Таму ў Будапешце працуюць круглы год купальныя басейны з цёплай вадой. Апрача таго, з некаторых, найцяплейшых крыніц, вада абагравае дамы, а з лячэбных крыніц вада даведзена проста да бальніц, дзе ёю лечацца хворыя.

## АЛОЎКІ, ЯКІЯ КЛЕЯЦЬ

У савецкім горадзе Калініне на фабрыцы школьных прыбораў выпрабляюць алоўкі, якія не пішуць і не малююць, а клеяць. Такі аловак трэба прыціснуць да паперы, і пасля яго астаецца тоненькі след клею.

## СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЬ — ПЛЯЦЕННЕ МЭБЛІ

У Квідзыне працуе тэхнікум, у якім вучні здабываюць уменне вырабляць мэблі і дэкарацыйныя прадметы з вікліны. Тэхнікум рыхтуе вельмі патрэбных краіне спецыялістаў.

## МАЛАНКА

Што такое звычайная маланка? Кожны з вас, напэўна, адкажа: электрычны разрад вялікай сілы ў атмасферы.

А што такое шаравая маланка? На гэтае пытанне і навука пакуль што адказаць не можа.

Што мы ведаем аб ёй? Што гэта невялікі свецячы шар дзесяці-дваццаці сантыметраў у папярэчніку. Узнікае ён у тым месцы, куды ўдарыла звычайная маланка. Пасоўваецца вельмі павольна, з хуткасцю аднаго-двух метраў у секунду, „жыве“ ад секунды да некалькіх мінут.

Шаравая маланка залятае ў адчыненыя вокны, фортачкі, дымаходы. Абляцеўшы памяшканне, часцей за ўсё выходзіць тым жа шляхам, што і ўвайшла, або ціха гасне, пакідаючы едкі запах.

Яна далёка не заўсёды бяспечная. Вядомы сотні выпадкаў, калі шаравая маланка выклікала пажары, забівала людзей і жывёл электрычным разрадам.

І вось гэта ўсё, што сёння вучоныя ведаюць аб гэтай з'яве прыроды.

Невядома, як шаравая маланка ўтвараецца. З чаго складаецца? Адкуль чэрпае сваю энергію? Чаму ў адных выпадках выклікае пажары і смяртэльныя паражэнні, а ў іншых — праходзіць у дзесятках сантыметраў ад чалавека, і ён нават не адчувае яе цяпла?

Вестак аб шаравай маланцы вельмі мала, і ўсе яны атрыманы ад сведкаў; ні разу яшчэ не ўдалося стварыць шаравую маланку ў лабараторных умовах.



(Працяг са стар. 5)

# ГАЛКА

Спіць наша Галя.

Зялёныя доўгія лісты старога фікуса схавалі яе ад сонца і ад маіх вачэй.

Сам жа яе гаспадар, мой лёгкадумны сынок, і не здагадваўся аб небяспецы. У гэтую грозную хвіліну ён, мабыць, скакаў на выгане, аб'язджаючы маладога варанога жарабца. Яго шчасце, што ў апошні момант Галя вырвалася з-пад Рыскіных кіпцюроў, пакінуўшы ёй у падарунак тры чорныя пёркі. Раззлаваная няўдачай, Рыска мо з паўгадзіны скрабла кіпцюрамі кадушку з-пад фікуса, а потым панура паплялася прэч.

Неўзабаве галка так асмялела, што сама пайшла ў наступленне. Налілі мы неяк у місачку малака для Рыскі, любімага ёю сырадою, пакрышылі туды блін. Еш на здароўе і больш не злуйся.

Глянь-паглянь — ляціць, спяшаецца галка. Села ля міскі, адбірае сабе лепшае з Рыскіных пачастункаў, прымушае кошку адступаць да нашых ног...

І вось — не паверыце — праз нейкі час Галя з Рыскай пасябравалі. Усе крыўды і непаразуменні забыліся. Любата было глядзець, як Рыска разляжацца на прыпёку пад сонцам, а галка, нібы тая прынцэса, песціцца на яе пушыстым жываце. Косцік нават кляўся нам, што бачыў, як яны разам лавілі мышэй.

Я з дня ў дзень усё больш прывязвалася да нашай галкі і нават сумавала, калі яна на Косцікавым плячы „выходзіла" на прагулку. Як і раней, Галя больш чым каго слухалася Косці. Заляціць, скажам, на дрэва, ці на страху нашай хаты, ці на гумно, занясе туды адабраны ў мяне ліст паперы. Я злуюся, а Косцік толькі свісне, махне рукой — і Галя пакорна злятае долу, прыносіць мне тую паперу.

Усё было добра, пакуль у мяне не прапала самапіска. Ну, каго мне было падазраваць, калі не Галку з Косцем! Дзе я толькі не шукала самапіску. Цэлы дзень усё хадзіла па хаце і бурчала.

Ужо надвячоркам Косця падышоў да мяне, абняў за плечы.

— Мамачка! Такой бяды, што прапала самапіска. Я табе яшчэ лепшую падару. Ну, не трэба злавацца, добра?

Уецца ля мяне сын, як той хмель ля лазіны. А мне і самой сорамна стала: праз нейкую самапіску цэлы дзень бурчаць на ўсіх. Ды, можа, яшчэ і не пры чым тут Косцік і Галя.

У гэты вечар наш гаспадар да цямна на прызбе кляпаў, вастрыў косы: вялікую сабе, маленькую (якой яго самога калісьці навучыў касіць бацька) — Косціку.

Назаўтра раніцай, па расе, яны выйшлі касіць канюшыну — у дзеда быў невялікі клінок за агародам. Пачалі касіць і за якіх пяць крокаў ад плота знайшлі маю самапіску. Хто ж яе туды схаваў? Вядома, галка. Але я ўжо не магла крыўдаваць на яе.

Калі мы ад'язджалі ў горад, ехала з намі на Косцевым плячы і наша неадлучная Галя.

Восенню мы выпусцілі галку на волю. Два гады яна прылятала да нас. Калі Косця быў у школе, яна садзілася на плячо нашай бабулі і чакала свайго гаспадара.

# Вясёлы кутočак

Юрка пайшоў да доктара:

— Ты вельмі тоўсты, табе трэба займацца спортам, — кажа доктар.

— Я шмат займаюся спортам, — кажа Юрка.

— Якім?

— Збіраю паштовыя маркі.

* ✲ *

У школу прыйшоў тата Косціка і пытаецца ў настаўніка, чаму той адаслаў Косціка дадому са школы.

— Бо ён сказаў, што яго сястра хварэла дэфтэрытам, — выясняе настаўнік.

— Гэта праўда, — кажа тата. — Але яна хварэла многа год назад, калі была маленькай.

* ✲ *

— Дзеці, напішыце выпрацаванне на тэму найдзіўнейшага здарэння, якое вы самі перажылі, — задаў настаўнік заданне на дом.

Пеця напісаў: „Я перажыў такое дзіўнае здарэнне, што няма слоў, каб яго апісаць!“

* ✲ *

Барыс плаваў па возеры на лодцы. Раптам лодка перакулілася і Барыс упаў у ваду. Сябрам давялося ратаваць Барыса. Выцягнуўшы хлопца на бераг, сябры пытаюць:

— Ты ж добра плаваеш, чаму ж ты не паплыў?

— Бо на беразе стаіць дошка з напісам: „Плаваць забаронена“.

* ✲ *

— Што гэта ў цябе кот так мяўча? Не можаш ты яго выпусціць?

— Магу, але ты спачатку ўстань. Сядзіш на ім!

# Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 86/2, кв. 60. Жана Барысоўская, вучаніца шостага класа.

* ✲ *

БССР, 220082, г. Мінск-82, вул. Д. Сердзіча, 22/18, кв. 80. Наташа Самошкіна, вучаніца шостага класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 55, кв. 16. Люда Шашкова, вучаніца восьмага класа.

* ✲ *

БССР, 222660, г. Стаўбцы, Мінскай вобласці, жал.-дар. дом 21, кв. 3. Наташа Корхава, вучаніца восьмага класа.

* ✲ *

СССР, Крымская обл., Балаклавский район, г. Севастополь, п/о Орлиное, с. Павловка. Пиненко Ларисе. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

# АДГАДАНКА



**З запалак складзены 6 квадратаў. Знімі 5 запалак так, каб засталося толькі тры квадраты.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950** Białystok, ul. Wesołowskiego 1.